# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 5 (1040) ГОД XXI 1 ЛЮТАГА 1976 г. ЦАНА 60 гр.


Нашы ІНТЭРВ'Ю

## БЕЛЬСК
## У 536 ГОДЗЕ ІСНАВАННЯ ГОРАДА

Бельск як горад існуе ўжо 536 гадоў.

У 1975 годзе стаў ён цэнтрам гміны. Гарадскую адміністрацыю цяпер узначальвае тут начальнік горада інжынер **Ян Садоўскі.**

Каб дабрацца да яго, найперш трэба адолець прасторную канцылярыю.

— Калі ласка, — праз адкрытыя дзверы свайго кабінета заахвоціў мяне начальнік Садоўскі. Я найперш убачыў хмары папяроснага дыму. Значыць, тут інтэнсіўна працавалі...

— Выбачайце, — пачаў інжынер Садоўскі, — мы тут з **гарадскім актывам** вырашалі, што ў гэтым годзе найлепш зрабіць у Бельску грамадскім чынам...

— І што рашылі? — запытаў я, ладкуючыся выгодна ў крэсла.

— Грамадскую актыўнасць жыхароў нашага горада хочам накіраваць на пабудову купальнага басейна і гарадскога парка, які будзе распасцірацца на васьмі гектарах цяперашняга падмоклага лугу між чыгуначным вакзалам і Замкавай гарой; будзем наводзіць парадак на гарадскім спартыўным стадыёне і вакол дзіцячага саду, а таксама на жыллёвым пасёлку і ў іншых пунктах горада. Працы ўсім хопіць. Гэтай справе прысвячаем спецыяльную сесію гарадской рады нарадовай. Да пастаяннага супрацоўніцтва з насельніцтвам горада заахвочваем усе партыйныя арганізацыі, „блокавыя" камітэты, самаўпраўленне жыхароў, а таксама ўсе калектывы прамысловых прадпрыемстваў і ўстаноў.

— Чым у гісторыі горада адзначыўся мінулы 1975 год?

— Перш за ўсё ў сувязі з VII з'ездам Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў шырокім маштабе праявілася грамадская актыўнасць бяльчан, якія з'езд партыі віталі прадукцыйнымі і грамадскімі абавязацельствамі.

Затым горад атрымаў школьны інтэрнат на 500 спальных месц, дзе пасяліліся таксама і вучні беларускага ліцэя; прасторны, на 900 квадратных метраў гандлёвай плошчы, універсальны магазін, які пабудавала Цэнтраля сельскагаспадарчых спулдзельняў „Сялянская самапомач". Грунтоўна была аднаўлена і разбудавана пачатковая

(Працяг на стар. 4)



*Гарадская ратуша ў Бельску.*




*Бельск. На першым плане рэстаран „Падлясянка" і таварны дом.*



*Калектыў кларнецістаў музычнай школы ў Бельску.*

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Калі ласка, у белліцэй! ● Сто радкоў з Гайнаўкі ● Ці магчымы штучны розум? ● 50 год на сцэне ● Супрасльская друкарня ● „Пасманта" ● Сакі, прабудзіцеся! ● Вось дык прадаўшчыца! ● Весткі з Сукавіч, Тапаркоў, Белавежы, Бабікаў, Сухініч, Орлі, Крывяціч, Плянты, Відава ● Калі сніцца гной ● „Dwadzieścia lat, a może mniej".**

## У НАВУКОВЫМ ГУРТКУ

У нядзелю, 11 студзеня 1976 года ў Галоўным праўленні БГКТ сабраліся члены навуковага гуртка. З Варшавы прыехалі: доктар **Аляксандр Баршчэўскі,** магістры **Юрка Туронак і Мікалай Урублеўскі;** з Беластока прыйшлі: доктар **Іван Чыквін,** магістры **Вінцук Склубоўскі, Сакрат Яновіч і Міхась Насовіч.** У гэтым сходзе мелі ўдзельнічаць яшчэ іншыя людзі з навуковым званнем дактароў і магістраў, абяцаў прыйсці адзін прафесар. Па нейкіх, відаць, важных прычынах, яны не з'явіліся.

Юрка Туронак, старшыня навуковага гуртка, зрабіў справаздачу аб яго дзейнасці ў апошніх гадах.

Самым важным дасягненнем навуковага руху пры Галоўным праўленні БГКТ з'яўляецца навуковы зборнік, які выйшаў у 1974 годзе тыражом у тысячу экземпляраў, і ўжо больш чымсьці палавіну гэтага тыражу раскупілі зацікаўленыя людзі.

Як адзначыў дакладчык, зборнік сустрэўся з сапраўдным зацікаўленнем работнікаў навукі ў Польшчы і за яе межамі. У многіх навуковых перыядычных часопісах паявіліся на яго вельмі станоўчыя рэцэнзіі.

Удзельнікі сходу станоўча ацанілі працу праўлення гуртка і выказалі шчырую падзяку Юрку Туронку за яго самаахвярнасць у арганізацыі навукова-даследчай дзейнасці пры Галоўным праўленні БГКТ.

Было выбрана новае праўленне навуковага гуртка, у складзе яго знаходзяцца: магістр **Юрка Туронак** — старшыня і магістр **Сакрат Яновіч** — адказны сакратар. Доктар **Аляксандр Баршчэўскі,** доктар **Міхал Кандрацюк** і доктар **Хведар Галёнка** ўвайшлі ў праўленне, як яго члены, адказныя за паасобныя галіны навуковай дзейнасці гуртка.

Варта яшчэ адзначыць, што ў планах навуковага гуртка пры Галоўным праўленні БГКТ адзначана, што праз два гады яго члены выдадуць наступны навуковы зборнік, матэрыялы да якога трэба ўжо скласці найпазней да канца чэрвеня гэтага года.

Плануецца таксама праводзіць раз у год навуковыя канферэнцыі або сімпозіумы, прысвечаныя розным праблемам, патрабуючы навуковага абгрунтавання, якія хвалююць беларускае асяроддзе ў Польшчы. Першая такая папулярна-навуковая канферэнцыя мае адбыцца ўжо ў сакавіку гэтага года і будзе яна прысвечана дваццацігоддзю існавання БГКТ і тыднёвіка „Ніва", аб чым мы ўжо раней пісалі.

Навуковы гуртом наладзіў цеснае супрацоўніцтва з **Беластоцкім навуковым таварыствам,** якое абяцае беларускім прыхільнікам навуковай дзейнасці пастаянную дапамогу і падтрымку. Апошні зборнік, рэдактарам якога быў доктар **Міхал Кандрацюк,** таксама паявіўся, дзякуючы гэтаму супрацоўніцтву.

**В. Рудчык**




## Жудасныя анёлы

„Лютыя чарапы“, „Анёлы пекла“, „Мёртвыя галовы“... Такія злавесныя назвы носяць банды, якія дзейнічаюць у Нью-Йорку. Асабліва шмат іх у адным з бяднейшых раёнаў горада — Бронксе.

„Лютыя чарапы“ — адна з буйнейшых банд не толькі ў Бронксе, але і ва ўсім Нью-Йорку. Паводле слоў завадатараў, у яе ўваходзяць больш чым 500 чалавек, падзеленых на 18 „секцый“. Штаб-кватэры банд размешчаны ў некалькіх закінутых дамах. Там заўсёды ў вялікай колькасці спіртное, наркотыкі.

Банды існуюць на грошы, якія здабываюць шляхам розных злачынстваў. Так, па прыкладу мафіі „Лютыя чарапы“ прымусілі ўсіх дробных гандляроў „свайго“ раёна заключыць з імі пагадненне аб „абароне“ за 50 доляраў у месяц. Натуральна, ніхто з уладальнікаў невялікіх магазінаў не рызыкнуў адмовіцца ад навязанага пагаднення.

Не грэбуюць гэтыя „ахоўнікі“ і адкрытым грабяжом. Нямала жыхароў паўднёвага Бронкса сталі ахвярамі. Аднак, пацярпеўшыя баяцца звяртацца за дапамогай у паліцыю, таму што, як сказаў адзін з гандляроў, „паліцэйскія прыходзяць і адыходзяць, а „чарапы“ застаюцца“ і могуць адпомсціць. „Мы баімся іх, — гаворыць пажылая жанчына. — Калі сустракаеш гэтых малойчыкаў на вуліцы, ніколі не ведаеш, чаго можна чакаць“.

Дзейнасць і „ідэі“ банды вельмі нагадваюць фашызм. Тут і нянавісць да людзей „другога гатунку“, і бязмежная ўлада „фюрэраў“, і нават спецыяльная група, якую адкрыта называюць „гестапа“ і ў задачу якой уваходзіць караць тых, хто вінаваты, або непакорных.

Жыхары паўднёвага Бронкса не выпадкова скептычна ставяцца да абароны з боку паліцыі. Яна, як паказвае вопыт, нядрэнна ўжываецца з „Лютымі чарапамі“, гэтак жа, як і з астатнімі бандамі, якіх толькі ў Бронксе налічваецца каля ста. За выключэннем асобных выпадкаў паліцыя не ўмешваецца ў іх справы. „Яны не забіваюць паліцэйскіх. А тое, што бандыты страляюць адзін у аднаго, гэта — іх справа“, — такія аргументы зусім сур'ёзна выстаўляюць паліцэйскія чыны.

Не дзіўна таму, што „Лютыя чарапы“, якія ўзніклі шэсць гадоў назад, гэтак жа, як і іншыя банды, адчуваюць сваю беспакаранасць і працягваюць тэрарызаваць насельніцтва.

## Жанчыны вучацца

СКР у Міклашэве, гміна Нараўка, падумаў пра курсы для жанчын гміны. Ён стаў арганізатарам школы грамадска-палітычнай адукацыі ў 1975/76 г.г. На лекцыі гэтай школы прыходзіць 31 асоба. Вельмі ўрачыста адбылася першая лекцыя з удзелам I сакратара ГК ПАРП тав. Ю. Бароўскага, начальніка гміны тав. Ю. Навіцкага і дырэктара СКР тав. Я. Пацэвіча. Удзел у працы і павышэнні ведаў прымаюць найлепшыя работнікі сельскай гаспадаркі — члены гурткоў вясковых жанчын і вясковай працы СКР.

Варта адзначыць, што першыя лекцыі былі прыняты слухачамі добра. Тэма далейшага навучання вельмі цікавая. Жанчыны будуць вывучаць праблемы палітыкі нашай краіны, сусветную палітыку, праблемы культуры, мастацтва, адпачынку і здароўя. Між іншым, члены курсу паедуць на экскурсію наведаць добрую гаспадарку.

Лекцыі вядуць мясцовыя актывісты гміннага камітэта партыі і гмінныя спецыялісты.

**Аляксандр Закройшчык,**
**Нараўка**

## Новы клуб у Кнышэвічах

Кнышэвічы — гэта вялікая вёска ў гміне Бабікі. Налічвае разам з калоніямі каля ста дамоў. Ёсць тут шмат моладзі, якая да гэтай пары не мела дзе правесці вольны час. Многія сядзелі ў краме, пілі піва, а іншыя ігралі ў карты. Але стараннем моладзі ў Кнышэвічах паўстаў клуб селяніна, які ўрачыста адкрыла сама моладзь вёскі. Была забава, прыйшлі госці з навакольных вёсак.

**Віт**

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# БЕЛАРУСКІ СПОРТ У 1975 г.

Пачнем ад **студзеня.** За лепшыя дасягненні ва Усесаюзным спаборніцтве па выніках удзелу ў чэмпіянатах СССР, Еўропы і свету па алімпійскіх відах спорту прызамі і Ганаровымі граматамі Спорткамітэта СССР узнагароджаны фізкультурныя арганізацыі Беларусі (за пятае месца) і Мінска (другое).

А на спартыўнай арэне асабліва вылучыўся мінчанін А. Грыгор'еў. На зімовым чэмпіянаце краіны па лёгкай атлетыцы ён быў першы ў скоках у вышыню.

У **лютым** на VIII зімовай Спартакіядзе прафсаюзаў СССР 18-гадовая студэнтка Н. Зялова заваявала званне чэмпіёнкі па горналыжнаму спорту.

**Сакавік.** Валерый Шарый устанавіў сусветны рэкорд для штангістаў сярэдняй вагі. Беларускія баксёры В. Сакалоў і Ю. Быстроў заваявалі ў фінале VI летняй Спартакіяды народаў СССР бронзавыя медалі.

У **красавіку** на міжнародным жаночым турніры па фехтаванню Кубак Беларускай ССР дастаўся мінчанцы Г. Бяловай. Т. Чуміна (Віцебск) перамагла ў скоках на батуце на Усесаюзным мемарыяле лётчыка-касманаўта СССР Г. Т. Дабравольскага.

Беларуская ССР узнагароджана пераходным Чырвоным сцягам Савета Міністраў СССР за лепшую арганізацыю фізкультурна-аздараўленчай, спартыўна-масавай работы і ўнядрэнне комплекса ГТО.

У **майскіх** стартах лёгкаатлет В. Мяснікоў устанавіў новы ўсесаюзны рэкорд у бегу на 110 метраў з бар'ерамі.

**Чэрвень.** У фінале VI Спартакіяды народаў СССР выдатна выступілі беларускія фехтавальшчыкі, якія заваявалі другое агульнакаманднае месца. У асабістых турнірах залатымі медалямі ўзнагароджаны Галена Бялова і Уладзімір Расолька.

Мінскі дынамавец Г. Наркевіч на чэмпіянаце Беларусі па стралковаму спорту выбіў лежачы з малакалібернай стральбы 400 ачкоў з 400 магчымых!

У гарачыя дні **ліпеня** не менш „гарачымі“ былі спаборніцтвы цяжкаатлетаў на вільнюскім памосце. Спартакіядныя медалі рознай вартасці прывезлі дахаты беларускія багатыры. Р. Белянкоў падняўся на другую ступеньку п'едэстала, Э. Дзергачоў заняў трэцяе месца, а В. Шарый заваяваў „золата“, упрыгожыўшы спаборніцтвы трыма сусветнымі рэкордамі. Каманда БССР заняла другое месца.

У Ленінградзе, дзе спаборнічалі гімнасты, званне абсалютнай чэмпіёнкі Спартакіяды заваявалі адразу дзве спартсменкі: О. Корбут (Беларусь) і Н. Кім (Казахстан). Мінчанін Н. Нядбальскі аказаўся мацнейшы на перакладзіне. Зборная БССР заняла першае месца ў агульнакамандным заліку.

Цяжкаатлетаў і гімнастаў падтрымалі лёгкаатлеты. Вышэйшыя ўзнагароды ўручаны В. Мяснікову, Н. Грабнёву, А. Грыгор'еву, А. Федарчук і Е. Гаўрыленка.

У гэтым жа месяцы „каманднымі“ чэмпіёнамі свету сталі ў Будапешце фехтавальшчыкі Г. Бялова, В. Сідзяк і С. Прыходзька, а ў калумбійскім горадзе Калі — ватэрпаліст А. Клябанаў, які абараняў брамку зборнай СССР. Там жа сярэбраны медаль атрымаў мінчанін Н. Міхайлін (скокі ў ваду).

**Жнівень** для беларускіх аматараў спорту аказаўся яшчэ больш радасным. У Італіі на першынства Еўропы сярод юніёраў „золата“ здабылі грабцы В. Раманоўскі і З. Сарока. У Белградзе на чэмпіянаце свету па грэблі яркую перамогу атрымаў экіпаж байдаркі-двойкі Н. Астапковіч і В. Вараб'ёў.

У Рыбінску звання абсалютнай чэмпіёнкі СССР па водналыжнаму спорту дабілася мінчанка І. Потэс, а С. Нізоўкін у шматбор'і быў другім.

Мінскія барцы П. Лось і А. Марковіч сталі чэмпіёнамі свету сярод моладзі ў балгарскім горадзе Хаскова, а ў Афінах гімн Савецкага Саюза гучаў у гонар перамогі А. Федарчук, якая скакала ў вышыню, на юніёрскім чэмпіянаце Еўропы. А некалькімі днямі раней у Ніццы А. Грыгор'еў і Н. Грэбнеў выйшлі пераможцамі розыгрыша Кубка Еўропы па лёгкай атлетыцы.

Спартыўны **верасень** для беларускіх спартсменаў пачаўся з трыумфу І. Бурай, якая заваявала ў Францыі на чэмпіянаце Еўропы па скарасных відах падводнага плавання тры залатыя медалі.

У Адэсе чэмпіёнкай СССР па шашках стала мінчанка Е. Соркіна.

Увагу спартыўнага свету ў вераснёвыя дні прыцягвалі Мінск і Масква, дзе праходзілі сусветныя форумы па барацьбе і цяжкой атлетыцы. У родных сценах званне чэмпіёна свету па класічнай барацьбе заваяваў В. Зубкоў, прычым чацверты раз падрад, а самбіст В. Кардаполаў стаў сярэбраным прызёрам. У Маскве В. Шарый, выступаючы ў сярэдняй вагавой катэгорыі, быў мацнейшым у рыўку і суме двухбор'я.

У Мюнхене на чэмпіянаце свету па стральбе савецкі квартэт, у складзе якога быў мінчанін А. Кедзяроў, аказаўся самым цэльным у практыкаванні „бягучы кабан“. А ў Маскве Т. Шчырэц, Л. Іўшына і С. Ломаш атрымалі камандную перамогу на чэмпіянаце СССР па стралковаму спорту з новым рэкордам краіны, які перавышае рэкорд свету.

На велатрэку ў Тбілісі мінчанін Н. Шымановіч упершыню выйграў Кубак СССР у гіце на 1000 м з месца.

У пачатку **кастрычніка** сваю калекцыю спартыўных трафеяў дапоўніў В. Гурны. Ён стаў абсалютным чэмпіёнам кантынента на першым чэмпіянаце Еўропы па парашутнаму спорту, які праходзіў у Югаславіі.

Адна за другой ляцелі ў „яблычка“ стрэлы армейца В. Худобы. Ён заваяваў у Кіславодску званне чэмпіёна СССР на дыстанцыі 30 м з новым рэкордам краіны.

Футбалісты мінскага „Дынама“ атрымалі права ў 1976 годзе іграць у вышэйшай лізе.

У сталіцы Арменіі мінчанін А. Скрыпко заваяваў чэмпіёнскі тытул на першынство краіны па бадмінтону.

У **снежні** прыемная вестка прыйшла ў Беларусь з Каўнаса. Мінская спартакаўка Н. Дзяменцьева выйграла Кубак СССР па фехтаванню.

**В. Іваноў**
**С. Іўчык**




Асецкі Л. П., Мінск. „Ля палаца спорту“ — лінагравюра.




**Sobota 31.I.** 9.00 TELEFERIE. 10.00 Droga do Tipperary — film fab. rum. 15.25 Pr. I prop. 15.40 Pr. dnia. 15.45 Dzien. 15.55 Obiektyw. 16.15 Radz. Kazachstan i Kirgizja. 16.45 Jazdy na nartach uczy Karl Schranz. 16.55 Stud. Tel. Mł. 17.55 Variete na dwa fortepiany. 18.45 Twórcy — twórcom. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Na wschód od Edenu — film fab. USA. 22.10 Dzien. 22.30 Sport. 22.40 Łotrzyce — kom. muz.

**Niedziela 1.II.** 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 Krzysztof Kolumb — film fab. hiszp. odc. 1. 11.40 Lekt. Pegaza. 11.55 Dzien. 12.15 Pr. balet. 12.45 Z kamerą wśród zwierz. 13.15 Dlą dzieci. 13.55 Wielka gra. 14.50 Los. Duż. Lotka. 15.05 Pożegnalny walc — film fab. USA. 16.50 BANK 440 — oferty. 17.20 Kram z piosenkami. 18.10 Tele-Echo. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Zazdrość i medycyna — film fab. pol. 22.05 Sport. 22.35 Tele--Retro.

**Poniedziałek 2.II.** 8.50 Olimp. Stud. Mł. 13.55 Hokej: Polska—Rumunia. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.40 Echo stad. 18.05 Stülpner — zbójnik z gór — film ser. NRD. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Teatr TV: St. Stampf'l — Kundel. 21.30 Świadkowie. 22.00 Dzien. 22.25 Wieczorne serenady.

**Wtorek 3.II.** 9.00 Olimp. Stud. Mł. 10.00 Zazdrość i medycyna — film fab. pol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Na wielkim i mał. ekranie. 17.30 Palestyńczycy — rep. 18.00 Stud. Tel. Mł. 18.50 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.30 Przyp., radz. 20.35 Trzecia granica — film ser. 21.30 Interstud. 22.15 Dzien. 22.30 Opera.

**Środa 4.II.** 8.50 Olimp. Stud. Mł. 14.20 Uroczyste otwarcie Igrzyk Olimpijskich w Innsbrucku. 16.20 Pr. dnia. 16.25 Dzien. 16.30 Obiektyw. 17.00 Kino Skrzat. 17.30 Los. Mał. Lotka. 17.45 Poligon. 18.05 Paderewski bez aureoli. 18.35 Nad Afryką — rep. 19.00 Przed potopem — rep. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Studio Olimpijskie. 20.45 Rzym, miasto otwarte — film fab. wł. 22.25 Dzien. 22.55 Stud. Olimp.

**Czwartek 5.II.** 8.45 Olimp. Stud. Mł. 12.25 Bieg zjazd. mężczyzn (Innsbruck). 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Stud. Olimp. 17.30 Ekran z bratkiem. 18.40 Spotk. z medycyną. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15. Stud. Olimp. 20.45 Wydanie specjalne — film fab. USA. 22.00 Pegaz. 22.40 Dzien. 22.55 Stud. Olimp.

**Piątek 6.II.** 8.10 Olimp. Stud. Mł. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Stud. Olimp. 18.20 Pora na Telesfora. 18.55 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Stud. Olimp. 20.45 Podróże z HAGAWEM. 21.25 Panorama. 22.15 Dzien. 22.25 Stud. Olimp. 23.10 Pr. muz.




**Piątek 30.I** — 8.15 Film fab. 13.45 Film fab. 17.45 Balet. 18.25 Akrobatyka. Bułgaria—Polska—ZSRR. 19.30 Pr. rozr. 20.50 Sport.

**Sobota 31.I** — 10.00 Balet. 12.50 Film fab. 14.35 Filmy anim. 16.15 Boks. ZSRR—USA. 17.30 Piosenka — 75. 21.00 Międzynar. tur. piłk.

**Niedziela 1.II** — 9.00 Spektakl. 12.45 Film fab. 14.35 Śpiewa R. Szaripowa. 15.05 Panorama międzynar. 16.15 Film anim. 16.45 Film fab. 18.00 Klub film. 19.30 Panorama film.




**Białowieża** Szaleństwo miłości — nor. 3—4. Alfredo, Alfredo — wł. 5—6. Ani słowa o futbolu —radz. 7—8.

**Czeremcha** Roko — USA 3—4. Orzeł i reszka — pol. 7—8.

**Czyże** Przygody Hucka Finna — radz. Godzina za godziną — pol. 4—8.

**Dubicze Cerkiewne** Gniazdo — pol. Miłość rozkwita w piątek — rum. 4—8.

**Gródek** Grzeszna natura — wł. 7—8.

**Kleszczele** Ponieważ się kochają — rum. 3—4. Zielona ściana — per. 5—6. Wielka noc i wielki dzień — czes. 7—8.

**Michałowo** W imieniu narodu włoskiego — wł. 3—4. Pies za burtą — radz. 5. Dzieje grzechu — pol. 6—8.

**Milejczyce** Dzieci Don Kichota — radz. 3—4. Czyste ręce — rum. 5—6. Dzieci lwicy z buszu — ang. 7—8.

**Narew** Weronika w krainie czarów — rum. Ktoś za drzwiami — fr. 4—8.

**Narewka** Pierwsza spokojna noc — wł. Płonąca tajga — radz. 4—8.

**Nurzec** Dzień oczyszczenia — pol. 3—4. El Dorado — USA 5—6. Nie ma róży bez ognia — pol. 7—8.

**Orla** Rajdowa sympatia — czes. W królestwie ducha gór — jug. 4—8.

**Rajsk** Mania wielkości — fr. Ziemia obiecana — pol. 4—8.

**Suchowola** Żeglarz znad Dunaju — węg. Drogi do ojczyzny — pol. 4—8.

B.Z.Graf. Zam. 228 F-2




Ці курэц у сілах пражыць дзень без папяросы? Аказваецца, усё залежыць ад абставін, у якіх ён праводзіць гэты дзень. Пачатак курэння ў тым узросце, калі за ўчынак гэты цвёрдая бацькоўская рука „прызямлялася“ на самую мяккую частку цела, дазваляе мне зваць сябе закаранелым курцом. А ўсё ж такі я зацяўся і рашыў пражыць хоць адзін дзень без папяросы. Праўда, галоўнай прычынай маёй пастановы быў прэсавы заклік, які аб'явіў дзень першага снежня „днём без папяросы“. Але першага снежня я курыў. Курыў таму, што раней, чым узяў у рукі газету, паспеў ужо дакрануцца да пачкі... Мой дзень без папяросы прыйшоў нечакана, міжвольна. Па прычыне сваёй працы я вымушаны даволі часта ездзіць у Беласток. Адну з такіх паездак я правёў у палове снежня. Службовыя фармальнасці (а назбіралася іх з паўтузіна) мне ўдалося аформіць надта хутка. Але гэта ж не ўсё! Кожная паездка ў ваяводства — аказія зрабіць пакупку: то жонцы каўбасы, то суседцы перцу (у нашых крамах ён бывае ў найлепшым выпадку раз у месяц), а то дзеткам, па старому звычаю, абаранкаў. І так, у віры штодзённых падзей я не заўважыў, што пачак папярос з'яўляецца ўсё не кранутым. Усведаміў сабе гэта толькі тады, калі, вяртаючыся дамоў (праязджалі якраз праз Трасцянку), невядома па якой прычыне, прасунуў левую руку ў кішэнь. І тады захацелася закурыць. Але мацнейшай аказалася патрэба цёплага супу, і я папрасіў шафёра павярнуць машыну пад грамадскую сталовую ў Нарве. Перад уваходам у спажывецкую залу вялікае люстра. Раздзявальня абавязковая. Я гатоў і не знімаць паліто, каб гардэробшчыца, строга глянуўшы на мяне, не паказала пальцам, дзе было напісана, што раздзявальня платная паўзалатоўкі. Сядаем каля століка а чатырнаццатай гадзіне. Абслугоўваюць дзве афіцыянткі. Людзей усяго восем чалавек, у тым ліку і мы. Разглядаюся за меню. Меню сталовай у Нарве — кавалак звычайнай паперы, на якой праз кальку капіраваны спіс страў. Трэба добрага кулінарнага знатака, каб разабраць неразборчывы почырк. Абавязкова патрэбна дапамога афіцыянткі. Аднак ні адна, ні другая з іх не спяшаецца з абслугоўваннем. Яны абедзве, седзячы ля службовага століка, найспакайней у свеце, кураць папяросы. Народ мы цярплівы, пачакаем. На дваццаць першай мінуце столік побач займаюць трое мужчын. Не прайшло і пяці мінут, як я пачуў адтуль прыемны пах украінскага баршчу. Другое блюда падала на той жа столік другая афіцыянтка. Не вытрымаў я і нясмела запытаў, калі яна праходзіла побач: „Прабачце, ці наш столік хтосьці абслугоўвае?“ „А так, сяброўка“, — пачуў у адказ добра вядомыя ўжо мне словы. „Я?? Я ж думала, што ты ўжо заказала абед гэтым людзям“, — пачуўся голас ад службовага століка. Бігосу (толькі гэта мы здолелі расчытаць у меню) аднак не паспрабавалі. У сталовай кухні яго ўжо не было, хаця быў у меню. Калі праходзіла трыццатая мінута нашага візіту ў сталовай „Над Нарвай“, мы ўрэшце ўзяліся за лыжкі. „Агурковы“ смакаваў, гэта праўда. У пэўнай хвіліне мой сябра выпадкова штурхнуў стоячы побач талеркі вазон з галінкамі яліны і... о, людзі добрыя, суп узбагаціўся яшчэ адной прыправай — ёлачнымі калючкамі. Ведаючы трываласць ялінавых галінак (штогод у мяне дома ёлка), я з усмешкай усвядоміў сабе час, які яны прастаялі ўжо на століках сталовай у Нарве. Калі нам падалі другое блюда, у сталовую ўвайшоў нейкі чалавек. Было відаць, што выпіў. У фуфайцы (гардэробшчыца пэўна, кудысьці выйшла). Рассеўшыся, ён пачаў надта голасна дамагацца піва. У гэтым месцы трэба сказаць, што сталовая ў Нарве мае дзве залы: безалкагольную і з алкаголем. Абедзве залы раздзяляе толькі ажурная перагародка, так што ў сапраўднасці гэта адна вялікая зала. І, як у гэтым выпадку, усе спажыўцы (каля акна сядзела жанчына з дзяўчынкай) вымушаны слухаць п'яныя вывады, уквечаныя неаднаразова нецэнзурнымі словамі. Нервы мае тут не вытрымалі. Я заплаціў рахунак і паспешна пакінуў сталовую. Седзячы ў самаходзе, ізноў міжвольна працягнуў руку ў кішэнь. І на гэты раз не стрымаўся. З вялікай роскашшу зацягнуўся тытунёвым дымам. Туды твою... з беспапяросным днём! Каб толькі не нервавацца. Неўроз — хвароба нашага стагоддзя, шкодны для здароўя, горшы за папяросу!

**Сядзем**

# Дасягненні васількоўскіх тэкстыльшчыкаў



*Прадзільны цэх васількоўскага прадпрыемства.*

Прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Эміліі Плятэр у Васількове за апошнія пяць гадоў дабілася вялікіх прадукцыйных вынікаў як па колькасці, так і па якасці прадукаваных вырабаў. Рабочыя выканалі план пяцігодкі на паўгода раней і далі дадатковую прадукцыю — 140 тысяч метраў тканін. Гэтаму спрыяла аднаўленне машыннага парку прадзільнага і ткацкага цэхаў, а таксама пабудова фарбавальнага цэха. У 1974 годзе абсталяваны найбольш сучасныя бесчаўнаковыя кросны.

Працуе тут цесна звязаны са сваім прадпрыемствам рабочы калектыў, які дбае пра супольную маёмасць і ашчадна выкарыстоўвае сыравіну. Да найлепшых належаць: Ірэна Падолей, Луцыя Гурская, Апалонія Дабравольская, Барбара Крушэўская, Тэрэса Рэнчыцкая, Станіслаў Дамброўскі, Ніна Тамашэўская

У мінулым годзе завод выпусціў 3 800 тысяч метраў ваўняных тканін. Амаль усе яны першага сорта. Гэтыя да- бротныя і прыгожыя тканіны карыстаюцца вялікім попытам у пакупнікоў. З іх краўчыхі вялікіх прадпрыемстваў шыюць плашчы, пледы, школьныя формы для дзяцей і іншую вопратку. Пашытыя з васількоўскіх тканін плашчы могуць задаволіць нават самых шыкоўных фарсух.

Варта дадаць, што дырэкцыя дбае аб сацыяльным забеспячэнні рабочых. У канцы мінулага года прадпрыемства пабудавала дзіцячыя яслі, у якіх знайшло апеку 75 дзяцей работніц.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

Ф·А·Л·Ь·К

ЛЮБОЎН




*Коб не тые лазы, то*
*ходіў бы я до деўчын*
*ходіў бы я до деўчын*
*Коб не тые тычкі, то*
*ходіў бы я до деўчын*
*ходіў бы я до деўчын*

Ад Веры Паповай, 1932 г. нарад гэтай песні ад сваіх матулі, бабу каля Заблудава, запісаў 20 каст ная транскрыпцыя з магнетафон

# ПРАКУРОРСКІ АГЛЯД

Ваяводская пракуратура ў Беластоку нядаўна пазнаёміла журналістаў са станам грамадскага парадку і бяспекі на тэрыторыі яе дзейнасці.

### НА ДАРОГАХ

Калі ў краіне Беластоцкае ваяводства мае першае месца па колькасці няшчасных выпадкаў на дарогах, дык у Беластоцкім ваяводстве першынство заваяваў горад Беласток са сваімі прыгарадамі. Асабліва небяспечнымі аказаліся вуліцы: **Першамайская Алея,** скрыжаванне **Ліповай, Першамайскай** і **Дамброўскага** (ля касцёла Роха), а таксама — ронда **Антанюкоўская** і **Звыценства.** Прыязджаючы ў Беласток, трэба асаблівую ўвагу звярнуць на гэтыя пункты ваяводскага горада.

Адносіцца гэта ў роўнай ступені як да вадзіцеляў аўтамабіляў, так і да **пешаходаў.** І гэта хачу асабліва падкрэсліць, бо аж 60 працэнтаў сярод тых, якіх сустракала няшчасце на дарогах, а перш за ўсё — на вуліцах Беластока, былі **пешаходамі.** Гэта яны дзе папала і як папала пераходзілі шырокія вуліцы, лезучы без агляды пад колы аўтамабіляў, якія імчаліся на вялікай хуткасці.

Будзьма аднак аб'ектыўнымі і справядлівымі. Галоўная віна ўсё ж астаецца на баку вадзіцеляў, сярод якіх, на жаль, яшчэ вельмі часта сустракаюцца такія, што любяць ездзіць...

### ...НА ДВУХ ГАЗАХ.

Вось менавіта. Найбольш частай прычынай няшчасных выпадкаў на дарогах, у час якіх ненасытная кастуха збірае сваё крывавае жніво, з'яўляецца **алкаголь.**

Найбольш жудасным прыкладам лёткадумнасці з'яўляюцца паводзіны шафёра Варашылы, які пад Фастамі сваёй старой „Сірэнай“ **дзве асобы забіў на месцы, а трэцяя памерла ў дарозе да бальніцы.** З бацькам і братам сустрэўся ён у Беластоку, дзе пілі гарэлку сапраўды па-сямейнаму, поўнымі шклянкамі за здароўе кожнага паасобку, а затым шафёр Варашыла рашыў, што адвязе іх у родную вёску Руда пад Кнышынам... Аставілі за сабою тры акрываўленыя людскія целы і імчаліся далей, на шчасце, ужо не вельмі далёка, бо выслужаная „Сірэнка“ адмовіла ў паслухмянасці. Дык пакінулі яе на дарозе і самі вярнуліся ў Беласток, каб закончыць сямейны пір. Вельмі былі здзіўлены, калі прыехалі за імі міліцыянеры. „Мы ж нічога не зрабілі, спакойна сабе пагасцявалі“, — паяснялі прадстаўнікам дзяржаўнай улады. Такая забава каштавала шафёру Варашыле 10 год турэмнага зняволення.

У іншым месцы пад Беластокам п'яны вадзіцель аўтасамазвала тыпу **„Зіл“,** неасцярожна апярэджваючы іншы аўтамабіль, забіў пасажыраў матацыкла „Юнак“. Трое дзяцей засталося сіратамі.

Пад Гайнаўкай уласнік багажовага аўтамабіля забіў на дарозе васьмігадо**бодна пакручваўся аж на 40 градусаў, а тормаз пачынаў дзейнічаць толькі тады, калі восем разоў яго націснуць.**

### БЕНЗІН. ІКОНЫ, ЧЭКІ І ІНШАЕ...

Ваяводская пракуратура ў мінулым годзе выкрыла даволі буйнае махлярства нелегальнага продажу бензіна, дзе страты дзяржавы перавышаюць 500 тысяч злотых.

Здарылася, што ў мінулым годзе нейкія „кемлівыя“ юнакі — вучні аднаго з мастацкіх тэхнікумаў — правялі сапраўдную „экспедыцыю“ на Беласточчыне ў **пошуках каштоўных старых ікон,** якія яшчэ знаходзяцца ў нашых царкоўках. Плён быў багаты, а наіўнасць розных цётак і царкоўных старажоў — яшчэ большая.

Затое з Саколкі і іншых ваколіц ваяводства часта прыязджалі ў Беласток на „гастролі“ малалетнія аматары лёгкай нажывы. Шнырылі па паграбах, па розных хлеўчыках і кладоўках, заходзілі і ў кватэры, калі іх уласнікі выходзілі на работу, „схаваўшы“ ключ „пад выцірачку“ або „за вуглом“.

Здаралася таксама, што ў розных установах можна было знайсці на сталах татовенькія, з подпісамі і пячаткамі, чэкі-квітанцыі, з якімі толькі ідзі ў банк і бяры грошы...

І так можна было б яшчэ прадаўжаць гэты пракурорскі агляд.

**Максім Нурэцкі**

*ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ*



*Лесаруб.* *Фота Р. Сянько*

Імпартгумар

# Прызнанне

**МАНАЛОГ БЫЛОГА ЗАГАДЧЫКА ГАСПАДАРКІ**

Пад музыку і з песняю
І я пайшоў на пенсію...

Былі гарачыя прамовы,
І пляскаў радасна народ.
Ніхто не ўспомніў пра вымовы,
Што мне давалі кожны год.

Разлічваў я на халадзільнік,
А мне прафком паднёс будзільнік,
Ад моладзі і камсамола
Усё ж дасталася мне „Спідола“,
Ды не застаўся я ў накладзе —
Мяне хвалілі у дакладзе,
І так хвалілі, так казалі,
Што плакалі жанчыны ў зале,
Я сам расчуліўся нямала,
Што быў найлепшы даставала,
Сумленны, дзелавы, адданы:
Мог з-пад зямлі дастаць бананы,
А для наменскай жонкі
Здабыць балгарскія дублёнкі,
На каўняры і шапкі — норкі,
А на банкет — вядро ікоркі.
Казалі, без такога скора
Зусім развaліцца кантора,
Пасля ў найлепшым рэстаране
Пілі і елі аж да рання.
На развітальны мой банкет,
Лічы, увесь сабраўся цвет.
Як з меха, сыпаліся тосты,
Што я здагадлівы і просты.
Ну так расхвальвалі мяне,
Што сам падняўся я ў цане,
Падумаў і сказаў: „Здаюся,
У вас на працы застаюся“.
Бухгалтар ледзьве не самлеў,
Зароў начальнік быццам леў:
„Адпачываць, таварыш, час,
Мы ж пераб'емся і без вас!“ —
Не дачакаўшыся катлет,
Пакінуў хуценька банкет.
Цяпер кручу сваю „Спідолу“
З другім аматарам футболу,
Крычым удвух: „Суддзю на мыла“,
А потым лыкаем „чарніла“.
Адно цікавіць, хто цяпер
Дастане норку на каўнер.
І ці мяне пакліча скора
Асірацелая кантора?

**Сяргей Грахоўскі**



# НІЎКА

**У РЭСТАРАНЕ**



*— Паслухайце, Ковач, ці не прызнаюцца нам, што мы сапраўдныя рэвізоры? Мабыць, тады нас урэшце абслужаць...*

**НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ**

Журналіст інтэрв'юіруе жыхара Монтэ-Карла:

— Якога вы прытрымліваліся рэжыму, дазволіўшага вам стаць доўгажыхарам?

— Ніякага рэжыму, — адказвае стары. — Я ем усё, што хачу. Выпіваю не менш бутэлькі каньяку ў дзень. Усе ночы праводжу або ля рулеткі, або ў начных клубах.

— Гэта проста надзвычайна! — захапляецца журналіст. — І колькі ж вам цяпер год?

— Праз месяц будзе сорак.

**СУМЛЕННЕ**

Пацыент скардзіцца лекару на тое, што размаўляе ў сне.

— А вы жанаты?

— Не.

— Дык чаму гэта вас бянтэжыць?

— Бачыце, доктар, наш дырэктар ужо тройчы рабіў мне за гэта заўвагі на сходах.



**НЕ НА ТАГО ТРАПІЎ**

Пракладваючы трасу чыгуначнай дарогі, інжынер зайшоў у адзін сялянскі дом і сказаў гаспадару:

— Чыгуначнае палатно будзе праходзіць якраз праз ваш дом.

— Не маю нічога супраць. Але вы моцна памыляецеся, калі думаеце, што кожны раз, калі будзе праходзіць цягнік, я стану адкрываць і закрываць дзверы.

## НЫРНУЛІ

Сустрэліся каля рэчкі два даўнія прыяцелі:

— Ну і як пражываеш? — пытае адзін.

— Ды так, нібы і нядрэнна. Маю „Волгу“, цудоўную дачу, а ў доме пад цынкавым дахам — тры сучасныя гарнітуры і яшчэ багата чаго.

— І ў мяне гэта ўсё ёсць, ды акрамя таго на трох ашчадных кніжках тры круглёнькія сумы.

— А ў мяне чатыры круглёнькія!

— А ў мяне...

— А ў мяне...

Залезлі абодва ў ваду.

— Давай заспрачаемся, хто прасядзіць даўжэй пад вадой, — прапанаваў першы. — Той, хто пераможа, выйграе сто рублёў.

— Давай! — падтрымаў другі.

Нырнулі абодва. Няма, няма, ды вось паказаліся абодва разам.

— Нічыя. А ну, давай на тысячу!

— Давай!

Зноў нырнулі і аж на трэці дзень... адшукалі іх вадалазы.

**Аляксей Доўгіх**



...Ён значна разгрузіў сваю жонку. Замест яе балабоніў з суседкамі.

...Ён не толькі вучыцца, але і працуе завочна.

*— Не крычыце, калі ласка, гэта не той нумар і не той муж.*



# Жартаўнік

Іду — стаіць каля магазіна.

— Чаго стаіш? — пытаюся.

Маўчыць. „Ага, — думаю, — напэўна нешта дэфіцытнае прывезлі“. Стаў за ім, стаю.

Бабуля міма шкандыбае.

— Чаго стаіце?

— Штосьці даваць будуць, — адказваю.

— Ну, дык я за вамі.

І стала за мной.

За бабуляй дзяўчо прыстроілася. Праз паўгадзіны чалавек дзесяць назбіралася, чаргу займаюць. Але вось нехта вельмі шустры ў сярэдзіну чаргі ўціснуўся.

— Ты куды?

— Я тут стаяў. Вось за гэтай цёткай.

— Якая я табе цётка? І перада мной ты не стаяў!

— І перада мной таксама!

— Ну хопіць, хопіць, раскрычаліся. Не стаяў, дык не стаяў. А за чым стаіце? Што даваць будуць?

Чарга прыціхла, задумалася.

— А сапраўды — за чым? Вы ведаеце?

— Не.

— А вы?

— Таксама не.

— Ха-ха-ха, — зарагатаў той шустры, што без чаргі пралез. — Паглядзіце на шыльдачку, што на дзвярах.

Гляджу на шыльдачку: „Кожны апошні чацвер месяца — санітарны дзень“.

— А сёння?

— Чацвер. Апошні.

Вось табе і маеш! І той, што першым чаргу заняў, смяецца. Вось нахабнік! Жартаўнік знайшоўся!

**Анатоль Яцкевіч**



*Без слоў.*

*ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ*

*Па просьбе Тамары Кананюк і Крысі Граматовіч з Васькоў, Аляксандра Грыгарука з Плютыч змяшчаем песню*

# STO LAT CZEKAM NA TWÓJ LIST

**słowa: Marek Dutkiewicz**
**muzyka: Wojciech Trzciński**
**śpiewa Irena Jarocka**

Niech pośród lata zapłonie dzień
taki dzień co się śni
I w pełnym słońcu się spełni sen
gdy twój list zechce przyjść

Sto lat czekam na twój list
który nie chce do mnie przyjść
Zgadnij jak ja się bez niego czuję dziś?
Sto lat czekam na twój list
każdy dzień — kropelką krwi
co powoli z serca wciąż ucieka mi

Nawet nie chcę mi się śnić
Żadne stare, dobre sny
Białą nocą ciągle czekam na twój list
Każdy schodów głośny skrzyp
lub stuknięcie w bramie drzwi
a nadzieja znów płomykiem w sercu tli

Niech pośród lata...

Jakże bardzo obrzydł mi
poniedziałków senny rytm
gdy listonosz wciąż nie puka do mych drzwi

Może list porwał wiatr
albo egzotyczny ptak
do poduszki czyta żonie każdy z nich

Sto lat czekam na twój list
Powiedz czemu tak ma być
że nie mogę dziś poczytać myśli twoich?
Sto lat czekam na twój list
który nie chce do mnie przyjść
Zgadnij jak ja się bez niego czuję dziś!

Niech pośród lata...

**ЭЛАЧКА**

— Дзядзька Хведар, якую я прыгожую кветку намалявала!

— Вельмі прыгожая! Толькі навошта ты мне малюнак пад самы нос падносіш?

— Як гэта навошта? Бацька ж яшчэ ўчора казаў, што вы нічога не бачыце далей свайго носа.



# Курёзы

**ПОМСТА ПАСЛЯ... СМЕРЦІ**

У англійскім гарадку Олтрынхэм памёр дробны гандляр вугалем Эдзі Хорлі. Незнакаміты гарадок, незнакаміты і нябожчык. Аднак сенсацыя абляцела амаль усю Вялікабрытанію: нябожчык завяшчаў усе свае набыткі... зборшчыку падатку Джону Дзіну і фінансаваму інспектару Джону Андэрсену.

Пасля ўскрыцця завяшчання адвакат добрасумленна выканаў свае абавязкі: згодна з завяшчаннем нябожчыка ён пераслаў „наследнікам“ у пластмасавай упакоўцы... па палавінцы лімона з такой прыпіскай: „Цяпер выцісніце гэта“.

„Наследнікі“, вядома, зразумелі волю нябожчыка — сапраўды цяпер з яго нічога не выціснеш. Выцісквайце тое, што засталося... Горкі жарт!

**НЕБЯСПЕЧНАЯ СЛАВА**

Слава бывае для чалавека не толькі цяжкай, але і даволі небяспечнай. Гэта адчуў на ўласнай скуры любімец публікі, новая зорка англійскай эстрады — дзевятнаццацігадовы вядучы ансамбля „Бей сіці ролерс“ Лес Макоун.

У час аднаго з канцэртаў ашалелы ад захаплення натоўп маладых слухачоў увварваўся на сцэну. Славуты Лес Макоун быў збіты з ног і моцна ўдарыўся патыліцай аб падлогу. І тут на сваю ахвяру накінуліся ўзбуджаныя паклонніцы і пачалі шкуматаць бездапаможную „зорку“. Ахоўнікам з вялікай цяжкасцю ўдалося выратаваць Леса Макоуна і яшчэ трох удзельнікаў ансамбля.




**Жыць лёгка! Як гэта цяжка!**